# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

Цана нумэру 50 кап.

Выходзіць тройчы у тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Востра-Брамская, № 9.

Год I. Серада, 7 мая 1919 г. № 5.


## Трэба ратаваць.

Трэба ратаваць тую частку Беларусі, дзе доўга быў фронт.

Трэба ратаваць тых людзей, што мусяць ізноў распачынаць там жыцьцё.

У сусьветнай цяперашней завірусе, сярод гоману і клуму на паміжнародным кірмашу чуюць толькі таго, у каго дужае горла, слухаюць толькі таго, каго карысна слухаць ці ад каго ня можна іначай адчапіцца.

Як ні дзіўна гэта для нашыіх часоў такой-сякой культуры і цывілізацыі, а тымчасам усё—так.

Усё так, і крычаць аб патоптаных умовах, аб вызваленьню малых народаў, аб іх самаазначэньню, адраджэньню пасьля вайны і г. д.—адно, а ці спраўдзіцца тая гутарка ці не—саўсім другое.

Беларусь мела няшчасьце ваеваць. Ваевала яна не як асобная дзяржава, а як частка Расейскай імперыі. Праўда у такім жа палажэньню была і расейская частка Польшчы. У такім жа палажэньню былі і часткі Аўстра-Венгрыі, што цяпер вырабіліс на новыя дзяржавы.

І вось дзіва: усе маюць права голасу, усе маюць права, каб сусьветная грамада гаіла ім болькі, а мы, а Беларусь?

А мы ня маем.

Бо мы ня маем дужага горла...

Бо нас слухаць няма карысьці...

Бо нас можна ня паслухаць...

Што мы ня маем дужага горла, мы самі вінаваты. Вінавата беларуская селянска-работніцкая грамада, каторая у пару, у свой час не парупілася падумаць, разважыць і уцяміць, што у яе будзе дужы голас толькі тады, калі ён будзе беларускі.

І беларускі ня толькі нацыянальна, але і тэррытарыяльна.

Калі у беларускім хору сальлюцца галасы усіх яе жыхароў бяз рожніцы нацыі і веры.

Гэта вельмі важная справа.

Мы яе праспалі.

Цяпер пакутуем.

Пакутуем таксама бяз рожніцы нацыі і веры.

Трэба як найскарэй папраўляць гэтую вялікую трагічную памылку.

Каб Беларусь не рабавалі, каб над намі, яе жыхарамі, ніхто ня зьдзекаваўся, трэба пісацца у беларускі хор, каб гэты хор быў чуцен там, дзе яго цяпер ня чуюць, ня хочуць слухаць.

Ня хочуць слухаць, бо няма карысьці...

З нас высмакталі усе сокі, нас абадралі, нашую старонку разбурылі, вынішчылі, і нас няма карысьці слухаць.

Каб мы мелі дужы голас, дык ба мы, ня хочучы адбіраць чужога, не далі-б забіраць сваё і прад'явілі-ба рахунак грабежнікам, што агалілі нас.

А цяпер нас ня хочуць слухаць, бо нас можна ня паслухаць.

Нас можна ня паслухаць дзеля таго, што ад гэтага у добрай кумпаніі ніякага скандалу ня будзе.

Сорам нам!

Сорам нам хоць ба за тое, што дзеецца на б. франтовай паласе Беларусі.

Вы ведаеце, што дзеецца там?

Не.

Дык-жа ведайце, што калі вы бачыце, як на вуліцы ня можа йсьці ад голаду чалавек, і вам робіцца брыкра і дрэнна, жаль і ёлкасьць агортываюць вас, дык усё гэта драбніцы перад тым, што дзеецца на б. франтовай паласе нашай.

Людзі варочаюцца з бальшавіцкай Расеі без капейкі грошы, голыя, босыя, галодныя і хворыя.

Там, дзе была хата—цяпер зрытая акопамі зямля. Ні двара, ні кала, ні коніка, ні сабакі. Пабітая цэгла ды дзікае сухазельле. І так на соткі вёрстаў.

Німа чаго есьці, німа чым сеяць.

Бальшавікі ня далі нічога. Толькі плацілі тым сваім чыноўнікам, што езьдзілі, глядзелі ды пісалі статыстыку ці ліха іх ведае што. Толькі вывязьлі у Маскоўшчыну усе астаткі вайсковага баг[illegible]я, якія былі кінуты немцамі. І навет з гэтай абдзёртай старонкі, ад паміраючых з голаду людзей, адабралі ў гарадох і замажнейшых паветах, дальшых ад б. фронту, некалькі вагонаў мармеляду і бульбы і вывязьлі іх у свае сталіцы. Напусьцілі поўна сьпекулянтаў і сваіх хвабрычных мяшочнікаў, якія мелі цэлыя хунты кярэнак, а калі тутэйшыя жыхары, гэныя старцы-бежанцы, прасіліся праехаць колькі станцыяў, каб прывезьці торбачку жыта, бо дзеці мёрлі з голаду, дык іх білі, сьпіхалі з тормазаў, заарыштоўвалі і зьнушчаліся, як можа зьнушчацца чужынец і запанеўшы хам.

Дабрадзейка Амэрыка у гэты час памагала Бельгіі, Сербіі, Польшчы, Ліцьве, і толькі беларускай франтовай паласе раданькі ня было.

Сорам нам!

Бо і мы самі ня можам памагчы братом сваім.

Дзе там: мы маем шмат паноў, трэба ім служыць.

А калі гэткія нядбалыя будзем доўга, дык мусім служыць ня хочучы.

Хочаш ня-хочаш, мусіш быць у войску бальшавікоў.

Хочаш - ня - хочаш, мусіш быць у войску іхных ворагаў.

Эй, годзе, браты!

Калі цяпер ня будзем дбаць і клапаціць, — загінем надоўга.

Ярмо, што ўзьдзенуць на нашы шыі, будзе муліць шыю і дзеткам нашым.

Дык не давайцеся.

Гуртуйцеся у моцную, беларускую селянска работніцкую партыю, каб абараніць свае правы і патрэбы: класавыя, нацыянальныя і усякія іншыя.

Абірайце свае селянска-работніцкія рады, рады усяго працоўнага народу Беларусі.

Не давайцеся пад ярмо.

Рыхтуйцеся на бой.

N.

## БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА.

Для кожнага сьвядомага беларуса, (а мусім азначыць нашым прыхільнікам, што беларуская сьвядомасьць за час вайны і палітычнае свабоды вельмі ўзрасла), ясна, што народ, каторы праклямаваў сваю незалежнасьць і непадзельнасьць у справе нацыянальнай арміі, можа мець толькі адзін пагляд, ад каторага, калі лічыць сябе народам і верыць у сваю сьветлую будучыню, адступіць ніяк ня можа.

Пагляд гэты—права і патрэба нацыянальнае беларускае арміі—так моцна засеў у нашые мазгі, што ніхто з беларусаў як з інтэллігенцыі так і з простага народу пярэчыць гэтаму ня можа і ня будзе.

Ня будзем тут прывадзіць нашых праваў на сваё войска, бо гэта праўда лішне ясная, ня будзем так сама прывадзіць гісторыі формацыі беларускіх войск, якія ўжо былі сфармованы зараз як пасьля рэвалюцыі, бо ўсё гэта добра на памяці ў кожнага беларуса,—адзначым толькі, што найбольш нам памаглі і зрабілі ў гэтым кірунку нашыя запраўдныя браты—украінцы. Навет часта няпрыхільныя нам ліцьвіны прызналі нам гэтае права.

Іншы абраз прадстаўляюць нашыя стасункі да Польшчы, якая хоча, будзем верыць, што шчыра, братняй згоды з намі, самаазначэньня нашага народу і прапануе нам палітычную унію на аснове „роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі".

Усё гэта вельмі прыгожа, вельмі навет пажадана, бо братняя згода ўсім нам і патрэбна і карысна, але... цьвёрдая дзейнасьць паказывае нам—дзіва.

Па гораду раскleены абвесткі аб нейкай Літоўска-Беларускай дывізіі, аб чым ужо ў нас пісалася, пачалося вербаваньне да гэтай дзіўной дывізыі і ў нумэры 8-ым польскай газэты „Nasz Kraj" мы знаходзім спробу апраўданьня гэтае пакалечанае ідэі.

Што датычыцца нас, беларусаў, мусім цьвёрда заявіць: *„Беларускі Народ, які праклямаваў сваю незалежнасьць і непадзельнасьць можа і хоча служыць толькі у сваім нацыянальным войску".*

У гэтым кірунку ясна высказалася

І холад і голад
У хатцы вітае,
А праца і молат
Мне моц адбірае!
Гей, ўдару ж я, ўдару!
Гарно раздзьмухну,
Сагну, загартую
Я сэрца—касу!
Я праўду і волю кахаю—люблю
І молатам лепшую долю кую!

Ф. Чарнышэвіч.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## ВЕСТКІ З ФРОНТУ.

За учорашні дзень навін на віленскім фронце не здарылася.

Чуткі і дзейканьне у горадзе аб Маладэчні і інш., як нас паведамілі з пэўнай крыніцы, пакуль што не спраўдзіліся.

### Беларусь.

**Арышты ў Менску.**

У Менску масавыя арышты у зьвязку з эвакуацыяю бальшавізма.

Выдатнейшых грамадзян вывозяць, як закладнікаў, у Смаленск.

**Беларуская дэлегацыя у Чэхіі.**

У чэскую Прагу прыбыла дыплёматычная місcыя з Беларусі. Так піша газэта „Kurjer Polski" с 25 красавіка.

### Літва.

**Літоўская дэлегацыя у Варшаві.**

Прыехала у Варшаву літоўская дэлегацыя дзеля вырашэньня палітычных і другіх спраў. Пакуль што вядуцца перагаворы з польскім урадам аб угрунтаваньні раздзеляючай граніцы паміж польскімі вайскамі і вайскамі літоўска-беларускімі.

Газэта „Kurjer Polski" піша, што у Варшаве у гэтай справе ёсць вось якія асобы: Шауліс, Діамантіс (быўшы літоўскі пасол у Берліне), палкоўнік (?) Велікіс (быўшы ваенны міністр) ды палкоўнік Езовітас—камандуючы беларускіх войск.

**Літоўскія дзеячы.**

Літоўскія дзеячы, ксяндзы Даўгель і Вайлакайціс, а таксама п.п. Сташынскі і Гіра (паэт) і б. рэдактарка газ. „Ukininkas" п. Барткевіч, каторых бальшавікі забралі з сабою, знаходзяцца у Дзьвінскай крэпасьці.

### Польшча.

**Грошы Расейскай Рэспублікі.**

Валюта расейскіх грошы на біржы у Варшаве падае. На думскіе грошы зьвярнулі увагу фінансісты і гэтых грошы курс досыць падняўся. За 100 рублёў думскімі плацілі ад 64 марак 50 пфэнігоў да 67 марак. За царскіе 500 рублёўкі плацілі ад 108 марак да 109 25 пфэнігоў за сотню.

**1-га мая ў Любліне.**

ЛЮБЛІН. (К. П.) Работніцкае сьвята 1-га мая адбылося спакойна. На раніцы утварыўся паход з сябраў П. П. С. (Польскай Партыі Сацыялістычнай), камуністаў і жыдоўскіх сацыялістаў з Саскага саду пад памятнік Люблінскай Уніі.

У бюрох працавалі, магазыны былі зачынены. У ночку на 30-га мая зьявіўся на магістраце чырвоны штандар, каторы меставы ўрад за ўвесь дзень не зьняўі.

30-га красавіка было засяданьне меставага ураду, на якім разглядалі справу ведамых выпадкаў з жыдамі. Меставы ўрад гэтыя здарэньні зганілў.

Меставы урад разглядаў пытаньне аб сьвяткаваньні 1-га мая. Радныя сацыялісты выставілі праект, каб сьвяткаваць у бюрох магістрату.

### Маскоушчына.

**Латышы і фіны наступаюць.**

ПАРЫЖ, 2—V (Р.Т.А.) З Гельсінгфорсу паведамляюць: латышская армія заняла Пячору. Наступленьне фінляндзкага войска ідзе ўперад. Фіны занялі Олонец і Ладзейнае Поле, што на Мурманскай чыгунцы.

## Уселякія весткі.

**Эрцбэргер скаржыцца Фошу на палякоў.**

БЕРЛІН (П.Т.А.). Эрцбэргер выслаў да старшыні нямецкае палюбоўнай камісіі ў г. Спаа ген. Ваммэаштэйна тэлеграму да ўручэння яе ген. Фошу, у якой піша паміж іншым:

„Урад нямецкі дастаў гэтымі днямі зусім годныя веры весткі якія даносяць, што польская армія маніцца найбліжэйшымі днямі пачаць атакі з вялікімі збройнымі сілами на нашыя землі у Познані і на Вышэйшым Шлёнзку (Сілезіі). Зборы польскага войска на нямецкім пагранічы пацьвярджае праўдзівасьць гэтых вестак. Урад нямецкі пераконаны, што саюзныя дзяржавы зробяць усё, каб не дапусьціць праліцця крыві, якое з прычыны нападу палякоў мусіла-б наступіць. Урад нямецкі разумеецца пазволіць так сама на далейшы перавоз войск Галлера. Дзеля таго-ж мы мусілі-б скінуць адпавядальнасьць за ўсё што можа наступіць".

— Фінскі сойм вялікшасьцю 138 галасоў проціў 36 адкінуў манархічную канстытуцыю.

— Нямецкі Устаноўчы Сойм мае пераехаць з Вэймару у Бэрлін.

## У ВІЛЬНІ.

**Устанаўленьне валюты.**

Доўга чаканае распараджэньне польскае ўлады нарэшці апублікована.

Марка польская раўняецца 100 пфэнігам. 1 марка польская—1 марцы нямецкай—1 остмарцы (палове ост-рубля—1 царскаму рублю—1½ думскаму рублю—2 рублям Кіярэнскага.

Усе цэны, продаж, рахункі павінны азначацца у польскіх марках. пры тым рахункі ніжэй маркі павінны быць роблены на усіх дробных знаках грашовага абмена, як польскіх так нямецкіх або расейскіх. Прычым 1 фэніг польскі альбо нямецкі раўняецца 1 расейскай капейцы.

На жаль нічога у распараджэньні ні сказана аб савецкія грошы: 1, 2 і 3 рублях, відаўна пушчаных у ход, а так сама не ясна сказана аб юбілейных марках і расейскіх знаках вартасьці 1, 2, 3, 5 капеяк.

**Сярод чыгуншчыкаў.**

Як мы чулі, надта кепскае палажэньне віленскіх чыгуншчыкаў будзе польскаю ўладаю палепшана к 15-му маю.

Магчыма, што будуць выдаваць нейкую падмогу.

**Пенсіі б. савецкім служачым.**

Магістрат узьняў прынцыпіяльнае пытаньне, каб б. савецкім служачым выплаціць за службу грошы па 1-е мая.

**Харчы.**

Як кажуць, польская ўлада загадала усім харчавым раёным бюро, кабканечне зрабілі сьпісаньне на харчавых картках не пазьней, як у чацьвер 8 мая, і каб з 9 мая пачаць выдачу насяленьню пакуль што аднэй мукі, 4 хунты (з 20 красавіка па 1-е мая), па 2 маркі за хунт.

**Харчавыя крамы.**

Усяго адчыняецца пакуль што 55 харчавых крам (20 іудзейскіх і 35 хрысьціянскіх).

**Харчы прытулкам.**

Прытулкі і розныя дабрачынныя установы дастаюць цераз сваіх прадстаўнікоў харчы з апошняй, што мае быць, выдачы (12 хун. мукі, 1 х. солі, 1 х. сала 2 х. цукру і 1 х. газы).

**Камерчаскі банк.**

Камерчаскі банк (на Юраўскім праспекці) пасьля рэстаўрацыі пачнець ізноў сваю работу ў поўным размеру.

Магчыма навет адмена грошы.

**Зьезд польскіх рад.**

На зьездзе польскіх рад Магілеўскай, Віцебскай і Менскай зямлі у ліку прадстаўнікоў ёсьць ад Менска граф Чапскі, Кеневіч, Поранскі і інш.

**„А ты адкуліцька, прыяцель?"**

3-га мая у мейскай салі гаварыў „ад беларусаў і горада Менска" нейкі пан Дабрашыц.

Мусім спытацца у пана Дабрашыца: якое меў ён права гаварыць ад менскіх беларусаў **ды й наагул ад беларусаў?**

**Насеньня.**

Прыватнымі людзьмі прывезен з Варшавы 1 вагон насеньня, якое прадаецца земляробам па 8 марак хунт (замест 120 цёх па тутэйшай сьпекулятыўнай цане).

**Слова праўды.**

У польскае сьвята надта добрае казаньне было на адправе у Востра-брамскам касьцелі: аб патрэбі брацкай еднасьці паміж усімі нацыямі, паміж тым аб згодзе палякоў з літоўцамі.

Рэдактар і выдавец І. Вайцяховіч.